Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 25 (50) | Вільня, 24-га лістапада 1934 г. | Год 2-гі.

## Пачаткавае і профэсыянальнае школьніцтва

I.

Новы школьны закон з дня 11 сакавіка 1932 году кардынальна зьмяніў усю школьную структуру ў Польшчы. Трэба пры гэтым яшчэ раз падкрэсьліць што, новы школьны закон па стройнасьці, лёгічнасьці і дастасаваньні яго да форм сучаснага жыцьця займае адно з першых месцаў у-ва ўсей Эўропе. Але, падкрэсьліваючы дадатні бок школьнае структуры ў яе тэорэтычнай форме, мы з самага пачатку яго апублікаваньня заўсёды рабілі пэўныя засьцярогі, што да яго практычнага праведзеньня.

Зразумела, што ўся труднасьць практычнага застасаваньня, гэтага, так прыгожа апрацаванага закону, заключаецца ў тым, што ён выйшаў запозна. Каб гэты закон быў выданы ня ў 1932, а ў 1922 годзе, то сёньня Польшча займала-б адно з першых месцаў у справе вырашэньня так важнага і адначасна так труднага пытаньня, якім ёсьць народная асьвета.

Нажаль, спазьненьне ў гэтай справе на цэлых 10 гадоў, пацягне, як хутка ў гэтым пераканаемся, слазьненьне вырашэньня важнае праблемы — народнае асьветы не на 10, а мо' на цэлых 25 гадоў.

Справа ў тым, што першыя Урады адроджанай Польшчы замест таго, каб распачаць ад закладаньня новых моцных фундамэнтаў пад новы школьны дом, пачалі недарэчны і вельмі каштоўны рэмонт трох спарахнелых старых будынкаў.

І што-ж вышла? Праз 10 гадоў пабачылі, што спарахнелыя будынкі пачынаюцьваліцца. Пераканаліся, што ніякія рэмонты ўжо не памогуць, бо спарахнелі нятолькі сьцены будынкаў, але згнілі і самыя фундамэнты. Пачалі будаваць новую будыніну, але як заўсёды у такіх выпадках бывае, не хапіла... грошай! Не хапіла нятолькі на вялікую будыніну, але на'т на залажэньне фундамэнтаў. Заплацілі толькі архітэктару за плян. І вось цяпер маем добра апрацаваны плян прыгожае колёсальнае школьнае будыніны і... толькі.

Як бачым, здарылася няшчасьце: вялікія грошы ўкінулі, проста кажучы, ў балота, размалёўваючы спарахнелую будыніну, а пабудаваць новую няма за што. Ну, але што-ж зрабіць — няшчасьце, як кажуць, па людзях ходзіць. Трэба аднак шукаць выхаду. Разумны гаспадар у такіх выпадках, калі будыніна развалілася, а на новую няма грошай, ратуецца так: зьбівае провізарычны барак і пачынае зьбіраць грошы і прыгатаўляць месца на фундамэнт новае хаты. Неразважны гаспадар робіць інакш: пастаўлены барак пачынае, маляваць, тынкаваць, шліфаваць і. г. д., а з рэшты грошай, дзякуючы таму, што іх не хапае на хату, пачынае рабіць мэблі да будучае новае хаты.

Вось амаль тое самае, што робіць неразважны гаспадар, творыцца ў сучасны... мамэнт у нашым школьніцтве.

Маем толькі плян на новы школьны дом і займаемся маляваньнем дачаснага барака, ды прыгатаўленьнем вокан, дзьвярей, ды ўмэбляваньня для будучага дому.

Будуем гімназіі новага тыпу, не упарадкаваўшы ані пачаткавага школьніцтва, ані зарганізаваўшы профэсыянальнага.

А хіба-ж ведаем, што ў новым школьным будынку — гімназіі ды ліцэі — гэта дзьверы і вокны, **а профэсыянальнае школьніцтва — гэта неабходная складовая частка фундамэнтаў і сьценаў нашае школьнае будыніны.**

Для нас, беларасаў, правільная пастаноўка профэсыянальнае асьветы мае вельмі важнае значэньне, і дзеля гэтага мы яшчэ ня раз будзем да яго варочацца.

У сучасны мамэнт хочам толькі зьвярнуць увагу тых, ад каго гэта залежыць, на агульную балячку, якая важна для усіх народаў і для самае дзяржавы. Трэба прыступаць да будовы новага школьнага дому абдумана, разважна ды плянова — пачынаць ад фундамэнтаў і сьценаў і так паверх за паверхам.

Сямі гадовы курс пачаткавае школы — гэта ідэал, да якога трэба імкнуцца, але гэта ўжо 2-гі паверх будыніны. Пакульшто трэба залажыць фундамэнт і паставіць сьцены партэру — г. зн. 4-х гадовую пачаткавую школу, а ў ніжэйшую профэсыянальную, а ў асаблівасьці школу **гаспадарчую**, бож Польшча — краіна пераважна гаспадарчая, а для нікога не сэкрэт, што гаспадарчая культура (за выняткам Пазнаньшчыны) у Польшчы стаіць так нізка, што гэтая справа вымагае вельмі уважлівае і пільнае апекі.

Трэба памятаць аб адным, што каб сабраць грошы на пабудову школьнага дому, трэба перадусім паставіць сельскую гаспадарку так, каб яна давала даход, бо без гэтага патрэбных грошай не атрымаем, а пры дэфіцытовай гаспадарцы на крэдыт разлічаць нельга.

*Эра.*

## † Пратаерэй Тодар Васільевіч Уладзімірскі.

У аўторак 13 лістапада ў Н.-Вялейцы раптоўна памёр 65-летні Пратаерэй Т. Уладзімірскі.

Нябошчык, скончыўшы Маскоўскую Консэрваторыю па клясу композыцыі, праз усё жыцьцё працаваў, як рэгент хору і композытар. Між іншым, перад вайной быў рэгентам архіерэйскага хору ў Вільні. Пасьля вайны, вярнуўшысь у Польшчу, прыняў сан сьвяшчэньніка і быў настаяцелем у м. Трабах, а пасьля ў Н.-Вялейцы.

Працуючы, як пастыр, сярод беларускага сялянства, с. п. а. Уладзімірскі, як уталентаваны композытар, зьвярнуў увагу і на беларускую народную песьню: апрацаваў для хору каля дзесятка беларускіх народных мэлёдый і напісаў музыку да двух вершаў беларускіх паэтаў. Задумана была Нябошчыкам народная сюіта для хору a capella на мэлёдыю беларускіх абрадавых песьняў, аднак, безжаласная сьмерць абарвала жыцьцё добрага, высокай культуры, інтэлігентнага чалавека і не дала здзейсьніць задуманага.

Як бачым, не парываючы са сваёй роднай музычнай стыхіяй, с. п. а. Уладзімірскі не абмінаў сваёю ўвагаю і Беларускага Народу, прынёсшы яму ў дар цудоўныя, памастацку апрацаваныя песьні, якія карыстаюцца пасьпехам на канцэртных эстрадах нятолькі ў Польшчы, але і заграніцай (Прага-чэская, Рыга).

Няхай будзе лёгкай Памёршаму наша родная зямелька, няхай памяць аб ім вечна жыве і носіцца разам з яго песьнямі!

## Больш культурнасьці.

У папярэднім нумары „Родны Край“ выказаў сваё становішча адносна праводжанай беларускімі хадэкамі т. зв. справы „абнаўленьня“ БХД. Была там зусім супакойна і рэчова праведзена думка, што гэта „абнаўленьне“ выклікана з увагі на зьбліжаючыяся соймавыя выбары, што для дабра беларускае справы БХД прынесла-бы, магчыма, больш карысьці, калі-б, замест размалёўкі сваіх „усебеларускіх“ ды „урарадыкальных“ вывесак, пачала-б прысьвячаць больш увагі „на акцыю нацыянальнага ўсьведамленьня беларусаў-каталікоў“. На гэтыя заўвагі дала свой адказ „Бел. Крыніца“. І хоць кажа яна, што ў выступленьні „Родн. Краю“ поўна „пены, сьліны, ненавісьці“, то, хіба хутчэй, усё гэта прыдзецца аднесьці да яе самой, аб чым могуць пасьведчыць і сам тон выступленьня, і ўжытыя ёю гэткія няпеністыя і высака-аргумэнтацыйныя словы, як—„хлусьня“, „бязглузды“, „юдава справа“, „бел-паляки“, „рыло“, „сьвіньня“ і г. д. Мог „Родн. Край“ у сваіх поглядах мыляцца, і гэта трэба было „Бел. Кр.“ выказаць, а ўмець „ад сэрца“ вылаяцца, гэта яшчэ не аргумэнт і ня крытыка даных поглядаў. Кажуць, ад сэрца лаецца той, каму натопчуць на мазоль. Калі верыць гэтаму, то „Родн. Край“ у занятым адносна ўспомненага „абнаўленьня“ становішчы, выказаў сто прац. слушнасьці.

Апрача лаянкі, „Бел. Кр.“ у тым-жа адказе зрабіла нам наступны закід: што вось яны, бедненькія хадэкі, змагаюцца за нацыянальную еднасьць і дабро беларускага народу, а мы гэную іх працу разьбіваем, шкодзячы пры тым і самому народу. Гэты свой нясумленны закід „Бел. Крын.“ абапёрла на звычайнай, выдуманай ёю няпраўдзе, якую на гэтым месцы і хочам выказаць. Чытаем у „Бел. Крын.“, што „БХД — арганізацыя агульна-беларуская“, — згаджаемся, але хіба толькі на паперы, бо 25-35 чалавек, сяброў БХД у параўнаньні з мільённымі масамі Зах. Беларусі — гэта арганізацыя далёка яшчэ не „агульна-беларуская“. „Ёсьць у нас і каталікі, але ёсьць і праваслаўныя, нават у прэзыдыюме ЦК два віцэ-старшыні праваслаўныя“. Сапраўды, ёсьць праваслаўныя, але якраз толькі ўспомненыя „прысяжныя“ два віцэ-старшыні, вызначаныя на гэныя становішчы якраз з мэтай, каб магчы заўсёды бліснуць, што ёсьць у нас праваслаўныя „нават у прэзыдыюме ЦК“, аб чым урэшце павадыры БХД самі зусім шчыра падчырківалі на апошнім зьезьдзе БХД у Вільні. „Аб нашых-жа ўплывах на народ... няхай нас урэшце судзіць той-жа народ беларускі“. І народ судзіць — за некалькі гадоў існаваньня, БХД лічыць у сваіх радох ня больш 25-35 чалавек, а сяньня і гэныя рады пачынаюць радзець, падпісчыкі „Бел. Крын.“ таюць з кожным днём, як сьнег на вясну, самі-ж павадыры пачынаюць адмаўляцца ад БХД, называючы гэта „абнаўленьнем“. Урэшце, дзецішча беларускіх ксяндзоў — БХД сяньня ўжо цураецца назоўніка „хрысьціянская“ і гэта завецца „уплываць“ на масы. У адказ на „няхай нас судзіць народ беларускі“ — пытаем: дзе б. сэн. Рагуля, дзе б. пас. Юхневіч, б. пас. Каруза, гр А. Більдзюкевіч, студ. Клепацкі, д-р Фр. Грышкевіч, Шадыра, Чайкоўскі, што робіць д-р Пятроўскі і прозьвішчаў гэтых можа быць больш а гэта-ж усё гадунцы „нашых-жа ўплываў на народ!“ Бязьдзейна—опозыцыйнае стаяньне на адной „точке замерзания“ і дэмаралізаваньне гэтым масаў—вось „тая беларуская праца, якую мы зрабілі і якую робім далей“. БХД ня хоча толькі польскай вуніі, а народ беларускі наагул ня хоча ніякай вуніі, і мы гэта ў народзе будзем падтрымліваць, бо праваслаўная вера, гэта нацыянальны скарб беларуса, гэта яго нацыянальная традыцыя. І калі „Родны Край“ стаў у абарону гэнае традыцыі, то „Бел. Крын.“ лічыць гэта за „заданьне паглыбляць розьніцу між беларусамі ка-

# Навука і палітычныя тэндэнцыі.

11 лістапада Др. Янка Станкевіч гаварыў аб сваіх уражаньнях з ІІ-га зьезду славянскіх філёлёгаў, які адбыўся сёлета ў Варшаве. Затрымаўшыся даўжэй пры тых рэфэратах, у якіх закраналіся беларускія справы, д-р Янка Станкевіч зрабіў наступную спасьцярогу.

Зацікаўленьне беларусамі, асабліва беларускаю моваю, ў параўнаньні з І зьездам, значна павялічылася.

Гэты факт з прыемнасьцю прэлегент сьцвердзіў.

Пасьля рэфэрату прысутныя задавалі д-ру Станкевічу пытаньні. Асабліва цікавы дыялёг паўстаў між д-р. Станкевічам і д-р Грышкевічам.

Д-р Фр. Грышкевіч быў на першым зьездзе славянскіх філёлёгаў у Празе, у якім брала ўдзел і беларуская делегацыя з БССР на чале з акадэмікам Сакулінам і праф. Бузуком. На сёлетнім зьезде славянскіх філёлёгаў прадстаўнікоў з БССР ня было. Бальшавікі ня пусьцілі.

Д-ра Грышкевіча моцна цікавіць, чым вытлумачыць узрост зацікаўленьня беларускаю моваю і беларусамі наагул.

Д-р Грышкевіч ведае чаго хоча. І таму пытаючыся, ён адначасна сугеруе адказ. Пытаўся, больш менш, гэтак:

Вы, — зьвяртаючыся да д-ра Станкевіча, памятаеце, якое узварушэньне зрабіла на І зьезде ў Празе дэлегацыя беларускіх філёлёгаў з БССР. Беларуская дэлегацыя была цэнтрам зацікаўленьня ўсіх. Ці якраз спасьцярога, якую Вы зрабілі адносна большага зацікаўленьня беларусамі на ІІ зьезде, не зьяўляецца вынікам выступленьня беларускае дэлегацыі з БССР на І зьездзе, дзе Беларусь выступіла, як дзяржава?

Гэта апошняе д-р Грышкевіч заакцэнтаваў. Успомніў ён яшчэ аб прамове акадэміка Сакуліна.

Думаю, што ўсе прысутныя цікавіліся адказам д-ра Станкевіча, хоць д-р Фр. Грышкевіч так паставіў пытаньні, што адначасна сам на іх адказаў.

— На першым зьезде славянскіх філёлягаў—адказвае д-р Станкевіч я зусім не заўважыў, каб беларуская дэлегацыя з БССР была прадметам зацікаўленьня. Прачытанымі навуковымі рэфэратамі яны такога зацікаўленьня не стварылі. А што, як не навука, зьяўляецца самым важным на падобных зьездах? Наадварот, я тады чуў, што прадстаўнікі Б.С.С.Р. вельмі дрэнна гаварылі пабеларуску. Праўда, акадэмік Сакулін гаварыў на банкеце. Нічога надзвычайнага ён ня сказаў. Узрост зацікаўленьня беларусамі тлумачу тым, што кожны паважны славянскі філёлёг у сваіх навуковых працах ня можа абмінуць беларусаў.

На ІІ зьездзе вучоныя славісты розных народаў ня скрывалі свайго зьдзіўленьня і абурэньня, што бальшавікі псуюць беларускую мову зьменай граматыкі і не пазваляюць беларускім вучоным з БССР браць удзел у навуковых зьездах.

Чырвоны кастрычнік, банкетная мова акадэміка Сакуліна (а банкетны настрой спрые элёквэнцыі) —, вось што па думцы д-ра Грышкевіча спрычынілася да ўзросту зацікаўленьня беларусамі на навуковых зьездах; навуковыя працы беларускіх вучоных адыгрываюць меншую ролю. І калі не так, дык д-р Грышкевіч дэнэрвуецца, робіць комэдыянцкія міны і злосныя ўвагі. Але дапусьцім нават, што якраз банкетнае экспозэ акадэміка Сакуліна, было тым вялікім здарэньнем, дзякуючы катораму беларусы сталіся цэнтрам зацікаўленьня ўсяго навуковага сьвету. Можа тады вытлумачылі-б нам „вучоныя ў марксыцкім пісьме дактары" некаторыя сумлівасьці.

Акадэмік Сакулін і праф. Бузук ня зьвярнулі ўвагі славянскіх філёлёгаў марксыцкімі навуковымі мэтодамі, а тым, што яны першы раз рэпрэзэнтавалі Беларусь-дзяржаву, якая ізноў заняла належнае месца ў славянскай сям'і. І калі гэта меў на думцы д-р. Грышкевіч—то, трэба прызнаць, гест прыгожы, бо выступіў, *як беларускі дзяржаўнік*.

Ня ведаю, аднак, які лёс сяньня акадэміка Сакуліна і праф. Бузука. Але ўсе ведаем, што шмат хто з тых, якія будавалі палітычныя, а асабліва, культурныя фундамэнты беларускае дзяржаўнасьці на Усходзе, апынуліся за бортам нятолькі грамадзкага, але і асабістага жыцьця. Ці павінен беларускі дзяржаўнік моўчкі гэта абмінуць? Байкамі, што гэныя людзі былі агентамі марш. Пілсудскага, просім нас не карміць.

Сяньня мы сьведкамі, як тав. Гікала віншуе і гладзіць па галоўцы Янку Купалу за тое, што ён выракся ўсяго таго, што мы тут уважаем за найбольш вартаснае ў яго творчасьці.

Крытык Хатулёў піша, што найбольш вартасная літэратурная часопісь у Заходняй Беларусі—„Асва", а першы пралетарскі пісьменьніка—др. Фр. Грышкевіч.

Чытаючы ўсё гэта і будучы вачавідцам грамадзкіх падзеяў у Зах. Беларусі ў працягу апошніх гадоў, чалавека агарнаюць нятолькі сумлівасьці, але пачынае губляць пачуцьцё сапраўднасьці.

Што думаць, убачыўшы маладых марксыстаў, сьпяваючых з захопленьнем на кліросе?

Сапраўды, трэба, каб па грамадзкіх, культурных і палітычных поглядах шмат каго з пасярод сучаснага маладога пакаленьня перайшоў нейкі „крыгалом".

Але не такі „крыгалом", які адным можа стварыць варункі навуковае працы ў СССР, а другім—у савецкіх ізалятарах, або польскіх турмах.

*Я. З*

---

талікамі і праваслаўнымі", а калі БХД вядзе вунійна-каталіцкую акцыю, дык гэта ўжо ня „юдава справа", а нашая заўсёдная прынцыповая мэта". Закідаецца „Родн. Кр." кон'юнктурызм і ў гэтым-жа адказе БХД піша—„мы зьмяняемся... каб... больш дастасавацца да сучасных варункаў". А ці-ж гэта і ня ёсьць бязпрынцыпны кон'юнктурызм? Урэшце, „Белар. Крын." дэмагогічна заяўляе:—„іх трымаюць сільныя гэтага сьвету, іменна, каб яны нас кусалі... бо на што-ж былі-б бел. санатары патрэбны, каб нас ня было? Як добра ведаем, „сільныя гэтага сьвету" вельмі лёгка зьліквідавалі *стотысячную* беларускую „Грамаду", вельмі лёгка зьліквідавалі *стотысячны* польскі „Centrolew", зусім лёгка распраўляюцца з *стотысячнай* польскай эндэцыяй, яшчэ лягчэй, каб гэта толькі было ім патрэбна, расправіліся-б з нейкай *трыццацьцёх-асабовай* (з усімі жонкамі і дзяцьмі) беларускай хадэцыяй. Урэшце, калі-бы на беларускім грунце ня стала нават і дзесяць такіх хадэцыяў, то і тады, хай будзе пэўнай „Бел. Кр.", што беларускі рух мільёнаў будзе пульсаваць і надалей жыцьцём і, магчыма, куды здаравейшым. Толькі людзі хвора зазнаўшыяся, або зусім нячэсныя могуць ідэнтыфікаваць сябе з цэласьцю беларускага руху, прапаведываць, што ўсё робіцца толькі імі і з увагі на іх, а як толькі іх ня стане то і для бел. руху прыдзе „канец сьвету".

У адным з папярэдніх нумароў „Род. Краю" было сказана, што сапраўднае абнаўленьне БХД трэба пачынаць ад практычнага вязаньня дэмократызму з духовай культурай. І думка гэная вельмі слушная. Няпраўдай і звычайнай дэмагогіяй далёка не заедзеш, тым больш, ніколі ніякіх вартасьцяў позытыўных ня створыш. Жадаючы БХД, каб яна для дабра ўсебеларускае справы стварыла хоць якія колечы позытыўныя вартасьці, радзім ёй, зусім шчыра, ў падставы свайго абнаўленьня палажыць... больш культурнасьці.

*Радзім Кр.*

---

# Народная песьня—скарб народу.

Народная песьня — гэта адзін з найбольшых скарбаў беларускага народу, адна з найбольшых яго культурных здабычаў.

Ад нядаўняга часу беларуская песьня штораз больш зацікаўлівае музыкальны сьвет, які паступова схіляецца да таго, што Беларусы — наймузыкальнейшы славянскі народ і адзін з наймузыкальнейшых народаў у Эўропе.

І запраўды, калі параўнаем беларускую музыкальную творчасьць з музыкальнай творчасьцю суседніх з намі славян, напр. расейцаў, палякаў, украінцаў, то безумоўна пераканаемся ў слушнасьці гэтага погляду. Беларуская песьня, калі, можа, і ня мае шырыні і размаху песьні расейскай, тэмпэрамэнту і жывасьці песьні ўкраінскай, то за тое значна перавышае іх шляхотнасьцю сваіх музыкальных эфэктаў, глыбінёй музыкальнай думкі, сьвежасьцю і арыгінальнасьцю мэлёдыі, якая, аднак, ніколі ня выходзіць за рамкі абсалютнага хараства.

Нельга тут не падкрэсьліць і славянскасьці беларускае песьні. У той час, як расейская песьня адчула моцны ўплыў музыкі монгольскай, украінская—хутка пераняла праз Польшчу тэхніку і манеру музыкі італіянскай, а старая, польская песьня моцна занядпала і ў значнай меры загінула пад уплывам сярэднявечнага касьцёла, які з ёй востра змагаўся, як з кожнай іншай формай сьвецкага, а тут яшчэ, як на той час, і паганскага мастацтва,—беларуская песьня можа, найлепш захавала ўсе рысы старой праславянскай музыкі.

Аб высокай вартасьці беларускай песьні сьведчыць, хаця-б, тое, што ніводзін з вялікшых композытараў, ці то расейскіх, ці польскіх, пазнаёміўшыся з ёю, ня мог прайсьці міма, не адбіўшы яе ў сваёй творчасьці, не захапіўшыся ёй. Сярод майстроў музыкі, захопленых хараством беларускай песьні, бачым такія, вядомыя на ўвесь сьвет, прозьвішчы, як Глінка, Монюшко, Карловіч, Грэчанінаў і інш. І вось, цяпер, нашай песьні, — нашаму найвялікшаму культурнаму здабытку пагражае небясьпека з боку чужых а іменна польскіх і расейскіх уплываў. Пад дзеяньнем гэтых уплываў нятолькі псуецца самабытны характар нашай песьні, але нават яна сама забываецца, моладзь, часамі, нават пачынае стыдацца сваёй песьні, пераймаючы песьні чужыя.

Аб расейскім уплыве на беларускую песню трудна тут гаварыць, ня ведаючы, як гэта справа стаіць у Усходняй Беларусі. У нас, у Беларусі Заходняй, уплыў гэты, наагул, вельмі нязначны, павялічыўся, можа, толькі адразу пасьля вайны, калі салдаты з акопаў прывезлі расейскія песьні, найчасьцей — прыпеўкі, г. зв. „частушкі". Гэтыя кроплі чужой творчасьці разліліся ў моры беларускай мэлёдыі, не пакінуўшы выразнага сьледу. Але нам пагражае тут уплыў з іншага боку, уплыў польскі.

Разгледзім на чым палягае небясьпека гэтага ўплыву. Перадусім трэба падзяліць яго на дзьве часьці: на уплыў са стараны польскай *народнай* музыкі і на уплыў са стараны музыкі *„штучнай"*, *„композытарскай"*.

Праваднікамі польскай народнай музыкі ёсьць у нас войска, вайсковыя асаднікі, вучыцялі і радыё. Усе яны гэтую музыку прапагуюць, карыстаючысь поўным падтрыманьнем Ураду, перадусім школьных уладаў.

З пункту гледжаньня музыкальнай культуры, чужы уплыў не абавязкава мусіць быць шкодны; так украінскі уплыў нават, можа, і дадатня спычыніўся да разьвіцьця беларускае песьні, надаўшы ёй большую жывасьць і тэмпэрамэнт. Аднак ня так выглядае справа з уплывам польскім. Перадусім польская народная песьня стаіць беспараўнаньня ніжэй ад беларускай, якая пераважае яе музыкальнай культурай і багацьцем формаў. Падругое, самы дух польскай народнай музыкі зусім не адказвае духу музыкі беларускай. Тады, як беларускую музыку характэрызуе плаўнасьць мэлёдыі, правільны, спакойны рытм,—характэрнымі для народнай музыкі польскай ёсьць г. зв. сынкопы (ударэньне на слабой частцы такту), якія да характэру беларускай музыкі зусім не пасуюць і якіх надужываньне сьведчыць, аб нізкасьці музыкальнай культуры.

Разгледзіўшы усё гэта, ясна відаць, што уплыў польскай народнай музыкі можа толькі значна абнізіць музыкальную вартасьць беларускай песьні.

Што-ж можа даць беларусам уплыў польскай музыкі *не народнай?* Тут справа прадстаўляецца яшчэ горш. Праўда, польская музыка цяпер значна разьвіваецца, даючы цэлы шэраг выдатных композытараў але нажаль, уплыў ня іх творчасьці даецца ў нас заўважыць. Уплыву польскіх композытараў у нас няма, але праз Польшчу да нас ідзе уплыў новай, зусім безвартаснай, танцавальнай музыкі, пачатак якой трэба шукаць, калі не сярод дзікіх нэграў Афрыкі, то прынамся сярод іх амэрыканскіх братоў. мала ад іх культурнейшых —Зьявілася цяпер і ў Польшчы маса „композытараў" бяздарных, някультурных, якія выпускаюць у сьвет тысячы сваіх твораў — рознага роду (на амэрыканска-нэгрыцянскі лад) модных танцаў. Музыка бедная, словы бяссэнсоўныя, часта непрызваітыя — вось характэрыстычныя рысы гэтых твораў. Але паміма таго творы гэтыя популярныя, іх знае кожны, кожны іх слухае, вельмі многім яны падабаюцца. Відаць, пануючы цяпер гаспадарчы крызыс адказвае крызысу культурнадуховаму!

І вось гэтая брыдкая пародыя музыкі пачынае свой паход і на наш край. Ахапіла яна ўжо гарады і мястэчкі, пачынае зьяўляцца на вёсцы. Моладзь падкая на ўсё новае, „моднае", пераймае гэтую новую музыку і забываецца аб сваёй песьні, каторая, як неба ад зямлі, стаіць вышэй ад творчасьці розных гольдаў і каташкаў.

Пакульшто справа прадстаўляецца ня вельмі трагічна. Дагэтуль зараза ахапіла толькі гарады, мястэчкі і ваколіцы, але ўжо час пачаць з ёй барацьбу, бо яшчэ трохі і можа быць запозна.

Спосабаў барацьбы за родную песьню можа быць толькі два: першы з іх—гэта прапаганда беларускай песьні, тварэньне хораў, ладжаньне канцэртаў, другі спосаб—гэта запісываньне беларускай народнай музыкальнай творчасьці, бо папера вытрывае даўжэй ад людзкай памяці. У гэтай дзейнасьці і павінны прыняць удзел усе беларускія культурныя сілы.

*Г. Б.*

---

# З царкоўнага жыцьця.

*Полёнізацыя літургіі.* Мітраполія ўжо даўно займалася перакладам царкоўна-славянскіх кніжак на польскую мову. Апошнім часам Мітрапаліт паклікаў адумысную камісію для перакладу на польскую мову і літургічнага багаслужэньня. Цікава, што калі ўкраінцы дамагаліся ўкраінізацыі літургіі, то расейская прэса крычала, што гэта расьбіваньне Царквы, што гэта звычайная „ересь". А калі літургія перакладаецца на польскую мову, то расейская прэса маўчыць. Гэткія расейскія прынцыпы і этыка!

---

**Пашырайце нашу газэту.**

# 4-ы рэфэрат аб Менску.

## IV. Земляробства ў БССР.

19-га кастрычніка г. г. гр-н Клім меў гутарку аб земляробстве ў Беларускай Савецкай Рэспубліцы.

Як ведама, бальшавікі правялі экспропрыяцыю, ці вярней нацыяналізацыю ўсяе зямлі на абшары былое Расеі, г. зн., што ўся зямля перайшла на ўласнасьць савецкае дзяржавы.

Спачатку ішоў, пачаты яшчэ ў керэншчыне самым сялянствам, стыхійны падзел бліжэйшых двароў. Калі сяляне ў суседнім двары мелі пры старых парадках, напр., права пасьбішча, ці г. зв. сэрвітуты, дык у рэвалюцыю яны лічылі, што зямля, на якой пасьвілі сваю жывёлу, бязумоўна павінна належаць да іх, і наагул захаплялі сенакосы, ці якія іншыя кускі, выгаднейшыя для карыстаньня.

Ясна, што на захопленыя, ці наагул на быўшыя ў карыстаньні сялян землі ня было ніякіх дакумэнтаў. І бальшавікі мелі шмат клопату, калі прыступілі да рэгуляцыі землякарыстаньня цераз зямельныя камісіі на мясцох. Прышлося адкрываць кароткасрочныя курсы для каморнікаў (землямераў), якія нанова абмервалі землі паасобных землякарыстальнікаў. Старыя межавыя знакі былі сялянствам рупліва пакасованы і зямельным камісіям не заставалася нічога больш, як дашуквацца старых межаў шляхам паказаньняў сьведкаў.

Анархія землякарыстаньня ішла ад 1917 да 1923 году.

Апрача зямельных камісіяў былі ўстаноўлены спэцыяльныя суды. У гэтых інстытуцыях была гэткая навала справаў, што яны не маглі даць ім ніякае рады.

Земляробства існавала да 1922 году не паводле якога-небудзь закону, а паводле інструкцыяў ды цыркуляраў Народнага Камісарыяту Земляробства.

Трэба зазначыць, што ў часе зямельнае анархіі ішло таксама і стыхійнае ніштажэньне лясоў сялянствам. Была рабункова проста лясная гаспадарка, ніхто аб засяваньні лясоў ня думаў.

У 1926 годзе выйшаў нарэшце зямельны закон. Пачалася хутарызацыя, трываўшая да 1926-1927 году. Затым надыйшла першая пяцілетка і з ёю колектывізацыя.

Хоць падаткі на хутаран накладаліся вельмі высокія, ішло абцінаньне хутарных гаспадарак з зямлі, у якіх яе было часам да 50 дзесяцін, але ў нядоўгі пэрыяд НЭП'у усіх прадуктаў было на рынку даволі.

Перад колектывізацыяй больш спрытныя дробныя земляўласьнікі кінуліся на хітрасьць: пачалі злучацца з сваякамі і наагул чэснымі суседзямі ў арцелі, каб прыдаць землякарыстаньню колектыўны выгляд. Ясна, што ўсё гэта было толькі на паперы і пастаромy кожны гаспадарыў на сваім куску. Улады гэта зараз-жа зразумелі і арцелям быў паложаны канец.

З двароў пароблены цяпер *совхозы* (*советскія хозяйства*), а з сялянскіх, вясковых земляў—*колхозы*.

Совхозы зьведзены былі ў трэсты, як напр.: сьвіна-трэст, конскі трэст, малочны трэст і інш. Дзіўна, што гэткія буйныя гаспадаркі вяліся з дэфіцытам і з Масквы ішлі асыгнаваньні ў паўмільёна і мільён на падтрыманьне розных земляробскіх трэстаў. Дабро совхозаў моцна раскрадалася і нарэшце 8 жніўня 1932 году выйшаў драконаўскі закон, які грозіць караю сьмерці за кражу ў совхозе або ў колхозе. Лагоднейшаю караю за гэта лічыцца ссылка ў концэнтрацыйныя лягеры на 10 гадоў.

Уся бальшавіцкая земляробская сыстэма палягае на г. зв. *подстегиваніи* колхозьнікаў, г. зн. былых сялян.

Як-жа жывуць людзі ў гэтых совхозах ды колхозах?

У совхозах (казённых дварох) жывецца работнікам (былым панскім парабком) лепш у параўнаньні з колхозьнікамі. Совхоз мае грамадзкае харчаваньне — агульную сталоўку для ўсіх работнікаў, як і ў гарадох.

У колхозах сяляне жывуць яшчэ па сваіх хатах, харчуюцца самі тымі прадуктамі, якія выдаюцца кожнаму з іх, пасьля пагашэньня ўсіх павіннасьцяў. Бяда пануе тут страшэнная. Сала лічыцца нявіданаю роскашай.

Існуюць яшчэ і гаспадаркі індывідуальныя, г. зв. гаспадаркі *единоличников*, якіх улада стараецца дабіць непамернымі падаткамі: ад гэктара яны мусяць плаціць 4 пуды збожжа, 25 пудоў бульбы, 200-250 літраў малака ад кожнае каровы ў год (1933). На гэтым падатковы цяжар не канчаецца, бо кожны жыхар БССР плаціць яшчэ: страхавы збор, насенны фонд, кульзбор.

Бальшавікі імкнуцца за другую пяцілетку сколектывізаваць земляробства на ўсе 100°/₀ і правясьці ў жыцьцё грамадзкае харчаваньне нават і ў колхозах. На гэтыя мэты выпушчана ўнутраная пазыка на 1934 год у разьмеры трох з палавінаю мільярдаў рублёў (1 мільярд—1000 мільёнаў).

Афіцыяльна ў Беларусі колектывізацыя праведзена на 56°/₀, але ў запраўднасьці куды менш.

Ці ёсьць якія заработкі для сялян, апрача земляробства?

Ёсьць работы на лесазагатоўках і пры будаваньні ды папраўляньні дарог, дзе плаціцца 25 руб. за дзень працы з канём, але на рукі выдаюць толькі 3 руб., рэшта пералічваецца на колхоз, дзе вядзецца г. зв. строгі *учет* і рэгулююцца рахункі кожнага паасобнага колхозьніка.

— Як-жа праводзілася гэтая колектывізацыя?—спытаўся нехта з прысутных.

— Прыяжджала ў вёску камісія, выймала з кішанёў рэвальвэры, клала іх на стол і пыталася ў сабраных сялян: „Хто *проці* колектывізацыі?" — пачуўся на гэта адказ.

Ясна, што колектывізацыя ў гэткіх варунках выглядала дабравольнай і прымалася аднагалосна.

Грам. Клім сам асабіста быў у дзьвёх камісіях, якія выяжджалі наводзіць парадкі ў два совхозы. Адзін раз было гэта якраз у двары, належаўшым да рэвалюцыі да пана Ельскага. Старыя парабкі адважна хвалілі гэтага пана перад камісіяй, жалячыся на цяперашні свой лёс.

— Даўней,—кажуць, — лепей было: сям'я пабольшала, ці няшчасьце якое здарылася, ардынарыі не хапае—ідзеш да пана, а ён і павялічыць ардынарыю. А цяпер, дык невядома да каго зьвяртацца. —

— О, каб наш пан вярнуўся, — дадае іншы дзядзька, — дык мы-ж ня ведалі-б дзе й пасадзіць яго, як яму дагадзіць.—

Відаць несалодкае жыцьцё совхозьнікаў, калі яны ўздыхаюць па панскіх часох?

Цяпер яны працуюць, як і даўней, устаноўлены строгі нагляд за нормаю працы, аплата працы мужчын і жанчын няроўная.

Земляробства ўва ўсім СССР пад страшэннаю прынукаю і дзеля гэтага маса зямлі ляжыць адлогам. Совхозы часта гараць, улады шукаюць „шкоднікаў", тэрор ня літуецца ні над кім.

Машыннае абрабляньне зямлі правясьці немагчыма, бо на ўвесь СССР ёсьць толькі каля 200 тысяч трактараў.

Як совхозьнікі, так і колхозьнікі апранаюцца ў крамныя вырабы, бо хатні выраб матар'ялаў для вопраткі перастаў існаваць.

Пра колектывізацыю ходзіць сярод савецкіх жыхароў цікавы анэкдот:

„Усерасейскі стараста" Калінін прыходзіць аднаго разу да Сталіна і жаліцца яму:

— Бяда, браце, блашчыцы даймаюць зусім.—

— Чудак,—адказвае Сталін,— а ты абвясьці колектывізацыю, дык зараз-жа ўсе разьбягуцца. —

І селянін, як тая блашчыца, разьбягаецца з вёскі, прэцца ў гарады, пабольшваючы гэтым лік падонкаў пролетарыяту. *С.*

## Дамагаемся бел. мовы ўва ўнутраным урадаваньні праваслаўных епархіяў на беларускіх землях!

У папярэднім нумары мы коратка паведамілі аб увядзеньні украінскае мовы ў Валынскай епархіі, як мовы унутранага ўрадаваньня.

Як ведама, раней моваю ўрадаваньня ў гэтай епархіі была мова расейская, таксама, як і на беларускіх акраінах Польшчы.

Луцкая часопісь „Українська Ніва" зьмясьціла поўнасьцю цыркуляр Валынскае Духоўнае Кансысторыі да падуладнага ёй духавенства, падпісаны сябрам кансысторыі пратаерэем В. Кавальскім і сп. а. Сэкрэтара, вядомым украінскім царкоўным дзеячом Ів. Уласоўскім, а таксама дзелаводам Квасьніцкім.

(*Працяг на 4 стр.*)

# Маленькі фэльетон.

## Жарты і парадоксы.

*Спосаб на безрабоцьце.*

Па вуліцы Субач вяртаюцца з рэестрацыі безработных тры беларускія інтэлігенты.

Першы — доктар філёзофіі — іронізуе:

— Калі Люцыпар захоча паставіць які небудзь пякельны фарс, ці нават трагэдыю, дык напэўна заангажуе ў сваю трупу in corpore віленскае беларускае грамадзянства: акцёраў хопіць.

Другі — пісьменьнік — падхапляе:

— Можам мець пэўную надзею, што тады скончацца нашыя сустрэчы ў бюры Фонду Працы.

Трэці — інжынер — махнуў на ўсё гэта рукою і, каб ня быць зусім безработным, рашыў... ажаніцца.

——

*Моцна верадь.*

Наагул маладыя беларускія інтэлігенты ў Вільні жэняцца адзін перад другім, рыхтуючы сабе зьмену на будучыню.

Малайцы! Моцна вераць у словы поэта, што:

...„будзе ўнукаў панаваньне"...

——

*Задача.*

У 2034 годзе беларускія вучоныя усё яшчэ будуць ламаць галовы над рашэньнем гэткае задачы:

„Было ў Вільні выдавецкае таварыства і была ў яго кнігарня. Таварыства прагарэла і прадало кнігарню свайму-ж прыказчыку, а той прадаў яе прыватніку, атрымаўшы поўную магчымасць залажыць сваю ўласную краму прадуктаў першае патрэбы.

Як гэта магло здарыцца?"

Большасьць вучоных нарэшце плюне на задачу, бо будзе думаць, што гэта дзядоўскі анэкдот.

——

*Бяз кліча.*

А вось часопісь „Самапомач" дасюль яшчэ выходзіць бяз ніякага дэвізу. Пара было-б даць гэткі кліч:

„Калі хочам, каб расьлі прыватныя беларускія крамкі — пачынайма з коопэрацыі!"

——

*Усяляк бывае.*

З кнігарнямі ў нас усяляк бывае. Да ведама бібліяфіляў можна падаць зусім сьвежае здарэньне:

Быў у 1929 і ў 1930 годзе паслом у Сойм д-р Дварчанін, стараньнямі якога закладзена была на Вострабрамскай вуліцы трэцяя ў Вільні беларуская кнігарня. Кіраўнік гэтае кнігарні нейкі, Аніськевіч, прапаў невядома дзе. Кнігарня прастаяла пад замком і апечатана да 6-га лістапада 1934 году, а ў гэты гістарычны для яе дзень была прадана ўладамі з... ліцытацыі. Кнігарню купіў краёвы чалавек Аныця.

——

*Было і гэтак:*

Калі беларускі пасол у парлямэнт хацеў дабіцца поўнага вызваленьня свайго народу, дык думаў, што гэтаму паможа верны рэцэпт:

Сусьветная ці хоць-бы нават кітайская рэвалюцыя.

Калі іншы зноў пасол, мусі таксама з вызваленчымі мэтамі, абрастаць пачаў калёніямі, дык апанавала нас ціхая нацыянальная радасьць:

Здабыча ўсё-ж такі рэальная!

Цяпер гэтая радасьць пакрысе разьвейваецца.

Трэці пасол пяўся быць абшарнікам, але дарэмна, бо і бяз гэтага ў нас запанаваў пагляд, што пасол наагул — найбольшая велічыня ў нацыянальным руху.

——

*Апошні лёзунг.*

Таварыства Беларускае Школы доўгі ўжо час моцна трымаецца свайго апошняга лёзунгу:

„*Ша*!"

——

*Хвароба росту.*

Малады дзеяч з кваліфікацыямі палітычнага ефрэйтара прэцца проста ў павадыры... Фюрэр дый годзі!

——

*Чаго не хапае?*

Сустрачаюся з поэтам. Чалавек не бяз таленту, але худы і пануры.

— Што ты так аб'ехаў? — пытаюся:—Чаго табе не хапае?

— Аднае маленечкае рэчы.

— Якое?

— Штодзеннае магчымасьці... абедаць.

——

*Чысьціня.*

Адведаў мяне неяк стары прыяцель, што гандлюе тым-сім на правінцыі. Прывёс ён да Вільні 100 кілё мёду. Бядуе, небарака, дзе яго збыць.

— Пабягу,—кажу,— у знаёмы коопэратыў, можа хоць палавіну купіць?

Але ня так проста: кіраўнік коопэратыву кажа, што не хапае гатоўкі.

Пастаяў я, паглядзеў, аж у коопэратыве чысьціня нават і на палічках.

— Чым гэта ў вас так чысьценька падмецена? — пытаюся ў кіраўніка: — Венікам ці Пыласмокам?

— Ведама чым,— адказвае кірмўнік:—мятлою!

——

*Безнадзейнасьць.*

Напісаў я ўсё гэта і пру да рэдактара: можа апублікуе?

А рэдактар давай рабіць мне маленькі экзамен з жыцьцёвае мудрасьці.

— Што трэба рабіць, каб ня стаць безнадзейным? — пытаецца ў мяне.

— Трэба,—кажу,—асьцерагацца хварэць.

— Чудак!—павучае рэдактар: — Ніколі не жаніся з... Надзеяй, бо калі яна пачне старацца разводу і даб'ецца яго, дык тады што?

— ???

*Piccolo.*

# Беларуская хроніка.

— *Сьвяткаваньне ўгодкаў Цёткі.* У суботу, 17. XI. 34 г. адбылося ў памешканьні Бел. Студэнцкага Саюзу сьвяткаваньне, прысьвячанае беларускай поэтцы, „Цётцы“, Алёізе Пашкевічанцы. Рэфэрат аб яе жыцьці і творчасьці, ілюстраваны рэцытацыямі твораў Цёткі, прачытала абс. М. Мілючанка.

— *Вечарына трох Саюзаў.* 21 кастрычніка г. г., у Ковенскім Унівэрсытэце з ініцыятывы акадэміцкага аддзелу Саюзу Вызваленьня Вільні, літоўскія студэнты зладзілі адумысны вечар, на якім шырака разглядалася т. зв. „справа Віленшчыны“. Былі на гэтым вечары і прадстаўнікі літоўскае студэнцкае моладзі з Вільні, якія, між іншым, пахваліліся перад сваімі ковенскімі братамі тым, што гэная моладзь не жадае падтрымліваць лучнасьці з беларусамі. Прычынаю-ж гэтага тое, што беларусы ня хочуць адмовіцца ад Вільні. На другі дзень паявіліся ў ковенскай прэсе зацемкі аб гэтым асьведчаньні, а яшчэ праз некалькі дзён — і ў віленскай. Адно відаць „браты“ ліцьвіны агледзіліся, што крыху за шмат сказалі там у Коўні. Дык, каб не псаваць музыкі беларуска-літоўска-украінскага (бо ў Коўне таксама адхрышчываліся і ад украінцаў) саюзу, зьявіліся студэнты-ліцьвіны ў Бел. Студэнцкі Саюз (хадзілі і да ўкраінцаў) і паабяцалі, што дадуць у газэты „sprostowanie“, бо быццам усё гэта выдумала польская прэса. Тымчасам, у доказ сваіх братэрскіх пачуцьцяў, запрапанавалі зладзіць супольную студэнцкую вечарыну, якая і адбылася 10 лістапада г. г. у памешканьні Літ. Студ. Саюзу. Беларусаў было ня вельмі шмат, а большасьць з іх зьявілася „по приказу“. Характэрна тое, што ў той час, як віленскія ліцьвіны справу ўспомненага выступленьня тлумачаць польскай правакацыяй, ковенская прэса гэную „правакацыю“ не запярэчыла і да сяньняшняга дня.

— *З жыцьця Т-ва Беларусаведы.* 11 і 18 лістапада г. г. Таварыства Беларусаведы зладзіла дзьве навуковую зборкі, на якіх былі прачытаны:

1) Д-р Я. Станкевічам—рэфэрат на тэму: „Беларусіка на II зьездзе славістаў у Варшаве“.

3) Абс. М. Пецюкевічам—рэфэрат на тэму: „Марксыцкія мэтоды і заданьні ў сучаснай савецкай этнографіі“.

— *Новая беларуская часопісь у Вільні.* Даведваемся, што д-р Фр. Грышкевіч кратаецца каля выданьня новае беларускае часопісі. Часопісь была-б органам беларускае радыкальнае думкі.

— *Запазнаўчая гарбатка ў БСС.* У суботу 24. XI. 34 у памешканьні Бел. Студ. Саюзу адбудзецца для сяброў запазнаўчая гарбатка. Пачатак а гадз. 8 увечары.

— 25.XI.1934. у Беларусаведзе, ў салі IX Галоўнага будынку УСБ адбудзецца рэфэрат сяброў філёлёгічнае камісіі Беларусаведы на тэму: „Беларуская мова віленскіх беларускіх газэт“. Пачатака гадз. 17. Уступ для ўсіх вольны.

# З краю.

— 11 лістапада г. г. у Вільні адбылаcя ўрачыстае сьвята *Незалежнасьці Польшчы.* Перад пляцам Лукіскім прыняў дэфэляду п. Ваявода ў прысутнасьці вышэйшых урадоўцаў і вайсковых уладаў. У вечары адбыліся ўрачыстыя акадэміі.

— 21 г. м. пасьпешным цягніком прыехаў у Вільню Маршалак *Пілсудскі.* На станцыі спаткалі Маршалка прадстаўнікі адміністрацыйных і вайсковых уладаў.

— Пачынаючы ад 6 лістапада г. г. цана за адзін кілёграм шэрай солі абніжана з 26 гр. да 22. Дзеля таго, што гандляры надалей прадаюць гэтую соль па старой цане, — міністар унутраных спраў разаслаў усім ваяводам абежнік у справа спыненьня гэтых надужыцьцяў.

# Заграніцай.

— Быўшы японскі першы міністар Саіто зьмесьціў у аднэй амэрыканскай газэце артыкул, у якім ён заяўляе, што Японія не патрабуе зусім агрэсыўнай палітыкі. Выпярэдніцтва ў ваaружэньнях і завастрэньні крайняга нацыяналізму, — кажа Саіто—давядзе ўсе дзяржавы да нарушэньня фінансавай раўнавагі і да банкроцтва, за якім можа прысьці і загуба ўсяе цывілізацыі. Таму лёндынская конфэрэнцыя павінна ў інтэрэсах усіх прынесьці позытыўныя вынікі.

— Бухарэстская газэта „Адверуль“ — паведамляе, што рэктар унівэрсытэту Клужэ заявіў 5 асыстэнтам, што неадкладна зволіць іх з займаных становішчаў, калі яны не пакінуць таварства сяброў СССР, у якое ўступілі.

— Як падаюць «Известия»— Гітлер вельмі цікавіцца ростам фашыстаўскага руху ў Францыі. **Немцы** затрачваюць на пропаганду і агітацыю ў Францыі агромныя сумы. Падобна, у Францыі мае нават выйсьці газэта, якую будзе субсыд'яваць Гебэльс з сум дыспозыцыйнага фонду.

— Мы даведаліся, што па распараджэньню камісарыяту ўнутраных спраў, прадажа цукру ў Саветах будзе адбывацца толькі па талонах, 1 клг. у месяц на сям'ю.

# Гаспадарчы аддзел.

## Як перахоўваць капусту на зіму.

Капусту можна перахоўваць на даўжэйшы час у сьвежым стане або заквасіўшы. Можна яшчэ закансэрваваць яе сушэньнем, але астатні спосаб складнейшы і вымагае спэцыяльных сушылак, дзеля чаго аб ім тут гутарыць ня будзем.

Капусту, як і шмат іншае ліcьцястае гароднівы, можна перахаваць сьвежаю амаль што праз цэлую зіму, калі толькі злажыць яе ў адпаведным памешканьні. Памешканьне для гэтае мэты павінна быць сухім і халодным. Тэмпэратура у ім не павінна падымацца вышэй 5/°Ц. і ня ніжэй 0.

Практычныя гаспадары перахоўваюць сьвежую капусту наступным спосабам.

Зрэзаныя, здаровыя, цьвёрдыя галоўкі зьвязваюць шнуркамі так, каб адна другое не датыкаліся і завешваюць іх у пограбе (піўніцы) пад стольлю. Апрача таго, некаторыя выкопваюць лепшыя качаны капусты з зямлёю і садзяць у пограбе у пясок. Як у першым, так і ў другім выпадку трэба старацца, каб пограб добра праветрываўся.

Калі ў пограбе замала месца, то тагды можна перахоўваць капусту у капцох або ямах. У апошнім выпадку капусту выкопваюць з карэньнямі і ў такім выглядзе складаюць яе ў капец. У капец кладзецца капуста ня болей, як у 4—5 радоў і абавязкова карэньнямі ўгору. Калі капуста зложана, тагды яе прысыпаюць пластам зямлі таўшчынёю ў 40 цэнтымэтраў. Перад сільнымі маразамі такі капец або яма прыкрываецца яшчэ саломаю ці гноем. Пры закладаньні капца трэба пастарацца, каб ён меў на версе і пры зямлі па аднэй прадушыне для праветрываньня.

Найпрасьцейшы спосаб перахоўваньня капусты — гэта заквашваньне яе. Пры заквашваньні трэба старацца, каб да зложанае капусты ня мела прыступу паветра. З гэтай мэтаю капусту дробна рэжуць (ня грубей 2 мілімэтраў) і, пасаліўшы, так доўга убіваюць яе ў бочцы, покуль на паверхню ня выступіць сок. Пасьля капуста прыкрываецца векам і прыціскаецца каменем. Перад шаткаваньнем капуста павінна праляжаць некалькі дзён у цёплым месцы, каб аканчальна дасьпела.

Практычныя гаспадыні квасяць капусту наступным спосабам: дробна сшаткаванную і туга набітую у бочкі капусту пакідаюць на пару тыдняў у цёплым памешканьні і кожны дзень у ёй прабіваюць аж да самага дна па 6—7 дзірак дубоваю або бярозаваю палкаю; з гэтых дзіраў выходзіць няпрыемны пах, які калі-б застаўся ў капусьце, дашчэнту яе сапсаваў-бы; праз тыдняў два капусту пакрываюць цэлымі капусьцянымі лісьцямі, кладуць на іх кружок, а наверх камень; пасьля гэтага, бочкі з капустаю ставяць у халоднае месца, дзе тэмпэратура павінна быць каля 5—6° Ц. *М.*

# Сто год прогрэсу.

75 гадоў таму адзін вельмі разумны чалавек, — ангельскі вучоны Дарвін, кінуў думку, што людзі паходзяць ад малпы. Думка гэтая адразу выклікала вялікае абурэньне. Ніхто не хацеў быць задаволены з гэткага стану рэчаў: чалавек не хацеў прызнацца да сваіх валасатых і хвастатых продкаў, малпы ня верылі, што з іх роду можа паходзіць такое паскудства, як чалавек.

І вось тады, іншы, таксама вельмі разумны чалавек і добры пісьменьнік сказаў: „чалавек — гэта гучыць горда“ і людзі сталіся гордымі, так гордымі, што забыліся ня толькі аб малпе, ад якой яны, магчыма, паходзяць, але і аб першабытным чалавеку — дзікуне, ад якога яны паходзяць напэўна. Ды і было ад чаго закруціцца нават мацнейшай галаве! Геніяльныя вынаходы адчынялі перад чалавекам што год то шырэйшыя дарогі, прырода замест панаваць над ім пачала рабіцца верным яго слугой, найбольш сьмелыя думкі зьдзейсьніваліся, чалавек запраўды пачаў выабражаць сябе царом сусьвету, дык дзе-ж там памятаць аб сваім дзікім продку, які тысячы гадоў назад з голымі рукамі (можа і сам голы) паляваў на лясную зьвярыну і зьядаў яе сырой, ня ўмеючы яшчэ выкрасіць агню.

І вось захацелася чалавеку перад самым сабой пахваліцца сваім розумам. Зладжана была ў Чыкаго у Амэрыцы выстава, пад назовам: „100 гадоў прогрэсу“. Зладзілі яе амэрыканцы, якія маюць прэтэнсыю называцца самым культурным народам на сьвеце.

Чаго толькі ня было на гэтай выставе!

Было ўсё, што толькі чалавек прыдумаў для таго, каб называцца царом прыроды, былі паказаны ўсе геніяльныя вынаходы, ўсё вялізарнае разьвіцьцё тэхнікі апошняга стагодзьдзя. Ня было толькі продка нашага — дзікага чалавека, ня было і малпы. І вось гэты дзікун, які сядзіць глыбака схаваны амаль у кожнай людзкой душы, пастанавіў аб сабе прыпомніць, і прыпомніў пры аканьчаньні выставы з надзвычайнай зласьлівасьцю. Вось як пішуць аб гэтым газэты: „Пасьля ўрачыстага зачыненьня выставы шматтысячны натоўп на ёй прысутных кінуўся ламаць і грабіць выставовыя будынкі і павільёны. Кожны хацеў мець нейкі прадмет з выставы на памятку.

Натоўп разграбіў алькогольныя запасы выставы і перапіўся. П'яныя грамады мужчын, кабет і дзяцей са зьвярыным рыкам хадзілі па выставе, ломячы і бурачы усё, што пападала пад рукі“. Абразок запраўды ня вельмі культурны. Малпе сорамна робіцца за чалавека а адвечны дзікун зласьліва сьмяецца і пацірае рукі, жарт яго ўдаўся і мамэнт быў выбраны адпаведны — „сто гадоў прогрэсу“! Што-ж будзе яшчэ праз сто гадоў? Можа ізноў адкажаш культурная Амэрыка?!

---

Як бачым з прозьвішчаў, Валынская Кансысторыя знаходзіцца ў руках сыноў мясцовага ўкраінскага насяленьня, будучы ачышчанай ад старога расейскага чорнасоценства, якое дасюль трымалася даўнейшае русіфікацыі ўкраінцаў цераз урадаваньне парасейску ў Валынскай праваслаўнай епархіі.

Цікавыя мотывы цыркуляру Кансысторыі аб украінскай мове ўнутранага епархіяльнага ўрадаваньня. Тут успамінаецца, што яшчэ на пачатку арганізацыі Управы Валынскае Епархіі, пасьля вялікіх разрухаў, у рэзультаце сусьветнае вайны і рэвалюцыі, епархіяльныя ўлады распарадзіліся, каб моваю ўнутранага ўрадаваньня органаў Валынскае Епархіі была мова мясцовага насельніцтва — мова ўкраінская. Распараджэньне гэтае пасьля знайшло сваё праўнае апорышча ў высокіх асновах толеранцыі да нацыянальных меншасьцяў, як і меншасьцяў рэлігійных ды язнковых у Конституцыі Польскае Рэспублікі з 17 сакавіка 1921 г. (арт. 110 Констытуцыі). Выданы затым закон 31 ліпня 1924 году аб „дзяржаўнай мове, а таксама аб мове ўрадаваньня дзяржаўных і самаўрадовых адміністрацыйных уладаў“ аформіў права ўжываньня моваў нацыянальных меншасьцяў Польшчы, прызнаючы на тэрыторыі Валыні ўкраінскую мову, як мову мясцовага насяленьня.

Гэткім чынам юрыдычных падставаў, для ўрадаваньня ў Валынскай Епархіі на украінскай мове, аж надта даволі. Той самы закон 31 ліпня 1924 г. моваю нацыянальнае меншасьці ў паветах беларускага расьсяленьня прызнае мову беларускую.

Дык пара было-б увясьці беларускую мову ўва ўнутраным урадаваньні тых епархіяў, да якіх належыць праваслаўнае беларускае насяленьне, не чакаючы тых вострых і непажаданых мамэнтаў, якія мелі месца ў царкоўным жыцьці Валыні ў сёлетнім годзе, калі самі ўкраінскія праваслаўныя масы хапаліся за моцныя способы націску на сваё епархіяльнае начальства, дабіваючыся свае роднае мовы ў царкоўным жыцьці.

Увядзеньне беларускае мовы ў праваслаўных епархіях, заселеных беларусамі, залежыць ад добрае волі нашых праваслаўных Уладыкаў і спадзяемся, што Уладыкі гэтыя ня змусяць беларускае насяленьне доўга чакаць на праяву гэтае іх добрае волі, бо ў праціўным выпадку і ў беларускіх праваслаўных масаў хопіць адвагі дамагацца належнага пашанаваньня да свае мовы з боку нашых духоўных пастыраў.

Даўно насьпеўшую рэформу куды лепш было-б увясьці зьверху, не чакаючы, пакуль яна перасьпее, г. зн. уведзена будзе пад пераможным націскам зьнізу. *П.*

---

Выйшаў з друку

БЕЛАРУСКІ

**Адрыўны Календар**

**(блёк) на 1935 г.,**

які можна найвыгадней купіць у Беларускай Кнігарні В. Манкевіча, Вільня, Вострабрамская вул. № 1. — чэкавае конто **Р.К.О. № 61991.**

**Цана календара 55 гр.**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.